Год II. — № 15. Пятніца, 15-га красавіка (апрэля) 1921 г. Цана нумару 6 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА. Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч. А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.

Цэны абвестак: за адзін радок самага дробнага друку на апошняй страніцы 10 польскіх марак.

Падпіска: на 3 месяцы 100 польскіх марак або 5 хунтаў мукі.



*Вільня, 15 красавіка 1921 г.*

Згодна з прынятым польскім Соймам законам 17 сьнежня 1920 г. аб тым, каб на беларускай зямлі надзяляць польскіх салдатаў зямельнай уласнасьцю, польскі ўрад распачаў разьдзел нашае зямлі паміж салдатамі. Аднак, аказалася, што лёгка было гэта сказаць, але ня так яно лёгка зрабіць, асабліва пры тым бязладзьдзі, на якім дзержыцца Польшча. З гэтай прычыны вельмі непакояцца польскія эндэкі і востра наракаюць на свой урад.

Як відаць, беларуская зямліца ня лёгка даецца ў рукі чужынцам, якія—паводле заявы міністра Скульскага — ў 50 гадоў павінны нават сьляды беларушчыны тут выніщчыць! Будзем спадзявацца, што польскія пляны пазбавіць нашых салян зямлі і зусім зьвясьці са сьвету так хутка ня збудуцца. Раней ці пазьней народ беларускі возьме ў свае рукі ўладу на сваей зямлі, як праўны гаспадар яе, а чужацкія калёністы вернуцца туды, скуль цяпер да нас прыходзяць. Не здалела зьнішчыць нас магутная, 160 — мільённая Расейская дзяржава, — ня зьесьць і Польшча!

## Дзьве меркі.

Так-званыя польскія «соцыялісты» (Polska Partia Socjalistyczna) што-раз ярчэй выяўляюць свой праўдзівы твар. «Соцыялістамі» „барцамі за працоўны народ“ яны зьяўляюцца толькі тады, калі ім—на выбарах—патрэбны галасы працоўных мас; а ў кожным іншым часе яны выслугоўваюцца польскай буржуазіі—бо яна польская, родная! выслугоўваюцца польскаму імпэрыялізму, захватніцкім плянам польскага ўраду, ў каторым няма ніводнага соцыяліста.

Гэта асабліва ярка выявілася ў двох пытаньнях: віленскім і верхня-сілескім. І ў вадным і ў другім П. П. С. падтрымлівае аннэксыйныя пляны ўраду. Але, баронячы палітыку захватаў, П. П. С., як кажуць, „села ў лужу“: доказы правоў Польшчы на Віленшчыну і доказы правоў яе на Верхнюю Сілезію адны адным рэзка пярэчаць!

„Вільня павінна належаць да Польшчы, бо гэтага жадае польская большасьць (?) насяленьня!“—гэткімі славамі (прыблізна) прамаўляў у справе Віленшчыны соймавы пасол «соцыяліст» Недзялковскі. А дзеля таго, што паміж Вільняй і граніцамі Польшчы залёг вялікі абшар вясковы з чыста беларускім насяленьнем (у Віленшчыне і Горадзеншчыне),—дык для гэтага абшару П. П. С. ня хоча дапусьціць выяўленьня волі: пры чынным учасьці «соцыяліста» Дашынскага, польскі ўрад, змовіўшыся з бальшавікамі, проста прылучыў гэты абшар да Польшчы...

П. П. С. гэтым паказала, што яна лічыць голас места з наплывовым польскім насяленьнем больш важным, чымся голас вёскі з каранным беларусім насяленьнем. Але гэта толькі затым, што польская перавага аказалася ў месьце Вільні. Зусім другім голасам гаворыць орган польскіх «соцыялістаў» «Robotnik» (гл. № 83 з 31 III. 1921), калі справа йдзе аб Верхнюю Сілезію. Там у прамысловым районе палякі маюць невялічкую перавагу на вёсках,—і вось «Robotnik» аўторытэтна заяўляе: «Галасы (пры плебісцыце) наплывовага нямецкага элемэнту ў мястох маюць менш вагі, чымся галасы караннога насяленьня».

Ды гэтага мала. Як ужо вядома з тэлеграм, немцы запрапанавалі Лізе Народаў, каб з Верхняе Сілезіі зрабілі незалежную дзяржаўную арганізацыю—зусім нэўтральную і пад пратэктаратам аднэй з дзяржаў антанты або Лігі Народаў. — «Robotnik» у тым-жа нумэры востра выступае проці гэтага праекту: «Гэты апошні праект—гэткі дзіўны, што мы яго напярод адкідаем, як жарт не на часе... Дый як гэткая куртатая «дзяржава», складзеная з некалькіх верхня-сілескіх паветаў, будзе жыць і разьвівацца?» — А ў № 60 з 6 марца 1921 тая-ж газэта вуснамі пана Галоўкі лічыць зусім не за жарт, а за нешта сур'ёзнае дзяржаўнае існаваньне «Сярэдняе Літвы», складзенай, так сама, як Верхняя Сілезія, толькі з некалькіх паветаў! Газэта дамагаецца, каб пад польскай окупацыяй (добрае забяспечаньне свабоды выяўленьня волі!) быў склікаты устаноўчы сойм „Сярэдняе Літвы“, каторы бы пастанавіў, чы гэты кусок зямлі мае належаць да кагобудзь з суседзяў, чы... «станавіць самабытную дзяржаўную адзінку»!

Вось якая «пасьледавацельнасьць» польскіх «соцыялістаў». Гэтыя людзі, сваей крывадушнасьцю ганьбючы самае імя соцыялістаў, маюць дзьве меркі, каторымі мераюць палітычная справы. Стварэньне Сярэдня-Літоўскае „дзяржавы“ патрэбна польскім аннэксыяністам,—дык няхай жыве гэткая дзяржава! У Вільні ў месьці палякі маюць вялікую сілу,—дык голас Вільні рашае справу ўсяго краю, і кусок Беларусі «соцыяліст» Дашынскі далучае да Польшчы, ня пытаючыся аб волю беларускай вёскі.—У Верхняй Сілезіі ўсё наадварот, — і вось «пасьледавацельныя» прадстаўнікі так-званага польскага «соцыялізму» клічуць сьпеніўшыся ад злосьці: «Дзяржаўная незалежнасьць Верхняе Сілезіі—абсурд, дурнота! Голас нямецкай большасьці ў прамышленых мястох Верхняе Сілезіі—пустое!»

Паны польскія «соцыялісты!» Ня ўжо-ж вы думаеце, што вашы рукі, запэцканыя ўчасьцем у захваце Беларускае зямлі супроць волі нашага народу, здолеюць утрымаць той чырвоны штандар, за каторым ідзе польскі работнік і зямляроб-парабак? У адносінах да суседніх народаў вы ня лепшыя, а горшыя за вашых-жа «эндэкаў», бо тыя хоць ясна і выразна гавораць аб гвалце і захваце чужое зямлі, а вы крывадушнічаеце і баламуціце свой пролетарыят, заклікаючы яго, каб сваімі рукамі цягаў з агню каштаны для польскага панства! Пара вам ужо кінуць гэта баламуцтва і або прызнацца, што вы перасталі быць соцыялістамі, або знайсьці адну мерку дзеля ацэнкі палітычных пытаньняў, датыкаючых волі і зямлі суседніх з вамі народаў. Навука Карла Маркса і «нацыянальны эгоізм» Рамана Дмоўскага ніяк ня могуць разам з сабой ужыцца, - і ваша спроба прымірыць іх толькі давядзе вас да нямінучага ідэйнага банкруцтва.

**Ів. Мялешка.**

## Калёнізацыя „Усходніх крэсаў“ распачалася.

«Польская дзяржава лічыць у граніцах Рыжскага трактату каля 380.000 кв. км. Абшар гэты перавышае на адну чверць тэрыторыю Італіі і на адну трэць меншы за тэрыторыі Нямеччыны і Францыі».

Будучы вельмі задаволенай такой самавітай схэмай, „Rzeczpospolita“ (№ 88, выд. Варш.) усё-ж бядуе...

„Дзяржаўнае жыцьцё Польшчы агранічана толькі часьцю яе абшараў. З агульных 380.000 кв. км. папраўдзе *палавіна*, якая складаецца з 22 ўсходніх паветаў, ўсходняй часьці Галіцыі і Віленшчыны, становіць ў змыслу сіл і энэргіі польскай дзяржавы *мёртвую* рубрыку“. (Rzp. № 88).

Згаджаемся, што калі з 380.000 кв. кіл. палавіна ёсьць «мертвая», то гэта—дрэнная справа, але папраўная. Трэба толькі адмовіцца ад „мёртвай часьці, каб яна зажыла сама сабой. Ды дзе там! „Цо мамы, не оддамы — такі ўжо закон у яснавяльможных. І далей гаворыцца ў газеце вось як:

> «У сьвядомасьці ня толькі грамадзянства, але і ўраду істнуе ў паняцьці дзяржаўных граніц падзел на Польшчу і Крэсы. Гэта ёсьць як бы Польшча першай і другой клясы, якая-сь укаранёная здаўна клясыфікацыя, якая павінна-б была зьнікнуць два гады таму назад і каторая істнуе яшчэ аж да апошняга часу».

«Зьнікнуць», — і канец! Валяй-Маркаў, Валяй-Пурышкевіч... Пардон, пардон! Гэта расейцы! Усходняя дзіч!.. Яна ўвесь час стараліся, каб ня было Беларусі, але называлі нас хоць „Северо Западным краем“, а тут—зьнікнуць“... і «вшэндзе тылько Польска!» Ніякай «клясыфікацыі», ніякіх «Крэсаў усходніх»!.. Толькі Польшча, Польшча!

Далей „Rzp.“ кажа аб патрэбе „залюдніць“ крэсы, для чаго патрэбна „праграма абсаджаньня (засяленьня) аблічаная на дзесяткі гадоў“.

Усім нам добра ведама, што Польскі Сойм прыняў 17 сьнежня 1920 году пастанову аб колёнізацыі нашых беларускіх зямель польскімі салдатамі. Як мы ўбачым, калёнізацыя гэтая ўжо ідзе, але толькі не па праграме «Rzp.», разлічанай на доўгія гады, і навет без праграмы Сойму.

Вось як расказвае аб гэтым сама „Rzp.“ (№ 94, Варш. выд.):

> „Праз некалькі тыдняў пасьля соймавых ухвал (17 сьн. 1920 г.), Міністэрства Вайсковых Спраў стварыла сэкцыю засяленьня, каторая пастанавіла разьвязаць справу адбудовы і засяленьня усходніх крэсаў у працягу аднаго году пры помачы так званай «Інструкцыі».
>
> „Найважнейшую справу нашага дзяржаўнага і нацыянальнага быту польскі ўрад аддаў у рукі аднаго маладога афіцэра...
>
> „Пачалося трываючае дагэтуль бязладнае бадзяньне палкоў і рот на ўсім абшары 22 усходніх паветаў. Твораць так-званыя палкавыя фальваркі, аддаюць іх пад загад маладых афіцэраў, зусім незнаёмых з гэтай справай, бяруць дзеля колонізацыі найгоршы матар'ял, бо маладых фаховых жаўнераў, кідаюць людзьмі і грашмі бяз ніякага пляну, забіраючы адначасна польскую вырабленую зямлю і выбіраючы найлепш наладжаныя дворныя гаспадаркі.
>
> „Гэтак адбудова і колёнізацыя на ўсходніх акраінах зьмяняецца ў сумную забаву на колькі месяцаў, бо жаўнеры, пасаджаныя на зямлю бяз пляну, падгатоўкі і выбару, часта пакідаюць гэныя фальваркі ўжо праз некалькі дзён“.

Так вось што творыцца ужо на „крэсах усходніх“! Мы думалі, што колёнізацыя нам пагражае ў быць можа недалёкай будучыне, а тут аказваецца, што яна ўжо ідзе, дарма што без „апрацаванай“ праграмы. Покуль старыя эндэцкія зубры сабраліся-б „апрацаваць“ разлічаную на многа гадоў праграму колёнізацыі, маладыя афіцэры без праграмы і бяз сойму адра-

Галоуная кватэра 1|IV. Гэнарал Балаховіч паслаў «Найвышэйшай Радзе» ультыматум выбрацца ў 24 гадзіны за межы Польскае Рэспублікі. Палажэньне беднай Дырэкторыі крытычнае.

Лодзь 1|IV. Сябар Беларускай Вайсковай Камісіі гэнарал Якобіні (ён-жа Якубеня) скінуў шаблю і шпоры. Ён цяпер польскае службы капітан. Іншыя кажуць, што гэта апошняе няпраўда, бо часта бачаць яго ў форме падпалкоўніка.

**Звончык.**

## Тры трубы залотыя...

*(На тле старасьвецкіх беларускіх вайсковых песьняў).*

Ай лес к лесу клоніцца,
Вярхушачкі ломяцца!
Ай люлюхны, люлюхны:
Вярхушачкі ломяцца!

Як зачула матухна
Тры трубы залотыя.
Ай люлюхны, люлюхны:
Тры трубы залотыя.

«Ці ня мой-жа то сыночак
На вайну саружаецца?»
Ай люлюхны, люлюхны:
На вайну саружаецца?

А ў першую зайгралі,
Конікаў сядлаючы!
Ай люлюхны, люлюхны:
Конікаў сядлаючы!

А ў другую зайгралі,—
З хаты выпраўляючы!
Ай люлюхны, люлюхны:
З хаты выпраўляючы!

А ў трэйцюю зайгралі,
Вайну падымаючы!
Ай люлюхны, люлюхны:
Вайну падымаючы!

Ай лес к лесу клоніцца,
Вярхушачкі ломяцца!
Ай люлюхны, люлюхны:
Вярхушачкі ломяцца!

Ай плакала-ж матухна, —
Сыночка чакаючы!
Ай люлюхны, люлюхны:
Сыночка чакаючы!

**Лявон Вітан—Дубяйкоўскі.**

## На сьмерць Піліпа Валоцькі.

У Семяжове, каля цэрквы Божай,
Новы хрэст цяпер стаіць,
Абвінуты стужкаю прыгожай,
А пад ім салдат ляжыць!

На той стужцы, бел-чырвона-белай,
Літары напісаны крывёю...
Тут ляжыць сын Беларусі мілай,
Што пайшоў цярнёвай каляёю.

Ен ня сьцерпіў крыўды злое,
Што над намі вечна панавала,
Дый памёр ад кулі ён чужое,
А зямля свая яго схавала.

Сьпіць цяпер спакойным сном,
А душа да неба паляцела:
Больш ня пойдзе ў шыху баявом,
Бо настала для яго нядзеля!

Дома бацька, маці сьлёзы льлюць
Па сынку сваім старэйшым,
А тут, на вайне, ў газэты шлюць,
Што памёр ён першым.

— — — — — — — — —
— — — — — — — — —
— — — — — — — — —
— — — — — — — — —

**Дык-Дзеля.**

м. Быдгош 3. II. 1921 г.

## Беларуская нацыянальная меншасьць у Лацвіі.

*(Ад нашага карэспандэнта ў Рызе).*

Па Лацьвійскім перапісе, зроблены 14. VI. 1920 г., ў Лацьвіі зарэгістравана беларусаў 58.705 чалавек.

З іх — 53.773 зарэгістраваны як лацьвійскія грамадзяне, і 4932— як грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі.

У агульным ліку лацьвійскіх грамадзян беларусы складалі 4%.

У радку-ж сямёх нацыянальных меншасьцяў, зарэгістраваных у Лацьвіі, беларусы па ліку займаюць 3-е месца.

Каб гэта было ясьней дадаём табліцу:

| № № па парадку. | Лік нацыянальнасьцяў па перапісу 14. VI. 1920 г. | Лацьвійскіх грамадзян. | Чужаземцаў. | Усяго. | % да усяго насяленьня | % да лацьв. грам. | Увагі. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Латышоў . . | 1.130.001 | 8.332 | 1.138.333 | — | — | |
| 2 | Вялікаросаў . | 71.793 | 11,167 | 82.960 | 5,52 | 5,07 | |
| 3 | Жыдоў . . . | 60.844 | 17.857 | 78.701 | 5,23 | 4,30 | |
| 4 | Беларусаў . . | 53.773 | 4.932 | 58.705 | 3,23 | 3,80 | Для беларусаў, як меншасьці, цікава цыфра 3,80 і з яе трэба выходзіць. |
| 5 | Немцаў . . . | 45.725 | 12.200 | 57.925 | 3,22 | 3,23 | |
| 6 | Палякоў. . . | 32.012 | 11.064 | 43.076 | 2,16 | 2,26 | |
| 7 | Літоўцаў . . | 7.401 | 16,258 | 23.659 | 1,57 | 0,52 | |
| 8 | Эстаў. . . . | 3.633 | 2.467 | 6.100 | 0,40 | 0,26 | |
| 9 | Розных інш. . | 1.922 | 1.852 | 3.774 | 0,25 | 0,13 | |
| 10 | Невядомай нацыянальнасьці | 1.657 | 974 | 2.631 | 0,15 | 0,12 | |
| | Усяго . . | 1.416.063 | 87.103 | 1.503.166 | 21,72 | 19,69 | |

Цяперака, як раз, робіцца дадатковая перапісь насяленьня ў тых воласьцёх, што ў той час былі заняты палякамі і расейцамі.

Дзеля таго, што ў гэтых воласьцёх жыхарства пераважна, а ў іншых мясцох і выключна беларускае, трэба лічыць, што лік беларусаў, пасля перапісу, будзе куды большым.—Чакаецца зарэгістраваньне яшчэ каля 30 — 50.000 чалавек.

У гэтым апошнім ліку беларусы, як нацыянальная меншасьць займуць у Лацьвіі 2-е, а можа і 1-ае месца.

## Беларускія лекцыі у Латгаліі.

*(Ад нашага карэспандэнта ў Рызе).*

Рыжскае Культурна-Прасветнае Беларускае Таварыства „Бацькаўшчына", лічучыся з патрэбамі Беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латгаліі,—пастанавіла зрабіць тамака некалькі лекцыяў па беларускаму пытаньню.

Лекцыі адбудуцца ў Дзьвінску, Люцыну, Рэжыцы, Краслаўцы і Іллуксту.

Каб арганізаваць лекцыі, з Рыгі ўжо выехаў ў Латгалію Старшыня Таварыства „Бацькаўшчына"—К. Езавітаў.

## Адносіны да беларусаў лацьвійскага ураду.

*(Ад нашага карэспандэнта ў Рызе).*

Старшыня Беларускага Культурна-Прасьветнага Таварыства „Бацькаўшчына" — К. Езавітаў меў некалькі гутарак з Прадстаўнікамі лацьвійскага ўраду аб арганізацыі беларускай нацыянальнай меншасьці

З радасным духам бы я паляцеў
У царства каханьня, відна.

Ужо «Наша Ніва», першая сучасная нам беларусская часопісь, што пачала выходзіць, дзякуючы вызваленчаму руху 1905—6 гг., была аздоблена вершамі Алеся Гаруна.

У 1918 г. выйшаў з друку зборнік яго вершаў „Матчын Дар". Нажаль, гэтага зборніка мы пад рукамі ня маем і змушаны карыстацца тымі невялічкімі кавалкамі творчасьці А. Гаруна, што маем у сваім распараджэньні і якія далёка ня могуць даць шырокай магчымасьці ілюстраваць яго талент, як належала-б.

У творах сваіх А. Гарун выразна малюе клясавае палажэньне роднага народу-сяляніна, будзіць яго, кліча да адкрытай барацьбы, да выступленьня ўсею грамадой на бой з нядоляю.

У вершы «Ты мой брат» поэт навучае народ любіць свой найдаражэйшы скарб—сваю мову, якая адна толькі яшчэ й засталася ў народу неадабранаю.

У тоне гэтага вершу А. Гарун выказвае шмат агульнага з поэтамі Купалай і Зязюляй, асабліва з першым. Але ёсьць тут і свой, Алеся Гаруна, тон—гэта гучны покліч да грамадзкага злучэньня ў адну моцную масу—народ, які толькі грамадою можа ўхаваць свой скарб—мову сваю.

Зьвяртаючыся да народу, поэт кажа:

«Ты мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы свае ня чурайся;
Як ня зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.
Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,
Гэта скарб нам адзін захаваўся,
У сялянскай, аграбленай хаце
Толькі ён, незабраны, астаўся.
У старыну беларус, непадданы,
Гаспадарыў, быў сам над сабою
І далёка у сьвеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай зямлёю.
Але час прамінуў і нядоля,
На народ, як-бы камень, звалілась,
Беларуская слава і воля
Адыйшла, адцьвіла, закацілась.
Не зьмяняючы шэрай апраткі,
Працаваў ты, як вол, гаратліва,
А у хаце тваёй недастаткі.
А на ніве тваёй неўрадліва.
А чаму? Ты няздольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці п'яніца?
Мусіць не! бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць наўчыцца.
Сьветлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе, як і ўсё, адбіралі
І на бацькаўскі родны палетак
Працаваць—памагаць ня пушчалі.
Кто хацеў, той і сьмеў рабаваці,
Бяз прыпросу, зьяжджаліся госьці—
Абдзіраць, аб'ядаць, апіваці
І крышыць гаспадарскія косьці.
Можа-б ты і памёр і загінуў,
Каб ня вешчая мова Баяна.
Хто-ж быў добры—яе хоць пакінуў?
Як-жа так, што яшчэ не забрана?
Бо што бачылі госьцікі-гэрцы
І зямлю, і лясы, і кілімы,—
Усё забралі, а мову у сэрцы,
У сваім сэрцы хавалі, нясьлі мы.
Дык шануй, Беларус, сваю мову—
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацья-народы!

Жывучы ў далёкай Якутчыне, поэт не пакідае думкі ўцячы дамоў, да роднага народу, каб падняць гэты народ на барацьбу за лепшую долю, на барацьбу рашучую, калі давядзецца „ўсё узяць ці ўсё згубіць". Гэтыя свае парываньні ён малюе такім вершам:

Эх, сягоньня, ў гэту ночку
Я ўцяку адгэтуль проч.
Шэрым воўкам па лясочку,
Хай дагоніць, хто ахвоч.
Хай тагды сярод дарогі
Станець хто-ня будзе рад:
Чорны вуж абкруціць ногі.
Буду вужам, буду гад.
Хай тагды шукаюць ў лесе
Цёмных, вузкіх, воўчых троп!
Як арол у паднябесьсе
Я ўзьлячу над земскі строп.
У небе роўным, чыстым шляхам
Яснай зоркай палячу,
І скачуся па над дахам
Роднай вёскі і ўскрычу:
Гэй, хто ёсьць тут! Люд галодны,
Люд пакутны! Да мяне!
Станьма, брацьця, ў шых паходны—
Наша гора праміне.
Досыць нам з нядолі віці
Ценкі жыцьця свайго пас,
Слухай, люд: прынёс я ніці,
Хто за мною, брацьця? Час!
Устануць, рушаць: «Проч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы люд убогі,
Усё узяць, ці ўсё згубіць»...
Думкі, думкі звадыяшкі,
Ах, ня мучайце мяне!
Вам ўсё гульні, а мне цяжка,
Мне няволя ня міне...

А як горка і марна ідзе жыцьцё поэта ў ссылцы ён выказвае ў рэдкім па харастве вершы «На Віціме»:

Адзін ў жалезнай дамавіне
Ляжу бяз дум, ляжу бяз слоў,
Ня маю сноў, ня бачу сноў,
Няма бажаньня і ў спаміне
Навокал хлюпае вада—
Ракі нявернай дар няшчыры;
Наўсьцяж зьвініць, як сьпевы ліры,
Пасьпешных хваляк чарада.
Часамі ў шчылінку зірне
Праменчык сонца, зелень бора,
Між гор скалістая разора,
А ў ёй шумлівы вадаспад,
Заімкі беднай, вокны хат,
Рыбак у чоўне прамільгне,—
Нішто ня вабіць больш мяне!
Няма ў душы адгучных нот,
Кудысь падзеўся рым званчасты,
І чорны сум, як гад кальчасты,
Спыняе сэрца мерны ход.
Плыву адзін у дамавіне,—
Здаецца стыне ў жылах кроў.
Так голы куст ў глухой цясьніне,
Між шчэбняў скал, ў прытулку соў,
Бяз дум і слоў паволі гіне.

Блага жывецца адарванаму ад роднага краю поэту у дзевяцьгадовай няволі. Ня ведае ён шчасьця свайго асабістага, маленькага агульна-чалавечага. Ен як-бы і ня жыве для сябе самога. Жыцьцё ахвяраваў ён роднаму народу і ўсе творы яго зьвіняць вечна-грамадзкім тонам. Часам вельмі лірычна збудованы верш яго пяе не аб тым, што ахапляе сабою лірыка—не аб каханьні, не аб месячных, бязсонных ночах пары рознаполых людзей, што замыкаюцца ў чадзе свайго эгоістычнага шчасьця, —Народ, вялікі і грозны, прыгнечаны і бяздольны, багаты сваею будучынай выступае ўсюды ў тоне творчасьці А. Гаруна.

Апрача зборніка вершаў, Гарун пакідае бязсьмертную па сабе памяць у беларускай пэдагогіцы, як першы аўтор дзіцячых беларускіх п'ескаў, іграных няраз дзеткамі менскіх пачатковых школаў. П'ескі гэтыя сьведчаць аб нязвычайным разуменьні А. Гаруном дзіцячай псыхолёгіі і, часам, напісаны лёгкім вершам, як напр. баечная пьеса «Хлопчык у лесе»

30 цадоў! Які невялічкі кавалак часу! Які нядоўгі жыцьцёвы шлях, пройдзены поэтам! А сколькі нявымоўных перажываньняў, сколькі натхнёнай творчасьці, адбітай у патрыятычна-грамадзкіх вершах, пакінутых А. Гаруном на вечныя часы свайму, дасюль яшчэ нявольнаму, народу!..

**Краўцоў Макар.**

у Вайгянах і цазнаёміцца з вышэй памянутымі дабрадзеямі. Было гэта так: дачуліся нашы вясковыя, што у Вайгянах даюць вопраткі школьным дзяцём. А як народ у нас надта бздны, большасьць вярнуўшыхся з Расеі і яшчэ не ўпарадкаваўшых свае гаспадаркі, то ведама, што справа аб вопратцы іх надта зацікавіла. Хоць-жа я і чуў ужо, што беларускім дзяцём там нічога не даюць, але, каб выясьніць палажэньне спраў, паехаў з суседамі у Вайгяны. Прыехалі, зьлезьлі з панарада, аж якраз, глядзім ідзець нейкі пан, а за ім яшчэ трое ці чацьвёра людзёў. Мой сусед паказаў мне на пярэдняга пана і кажа: „Вось гэта, здаецца, сам пан Сладзінскі, завядоўца складам“. Я зараз пашоў да пана завядоўцы і запытаўся, ці ён гэта пан Сладзінскі. „А нашто вам Сладзінскі?“ запытаўся ён. „Ды я—кажу—школьны вучыцель, дык хацеўбы я ведаць, ці праўда, што вы даіцё вопраткі школьным дзяцём, і калі праўда, то якім чынам можна іх атрымаць?“ На гэта пытаньне пан ня даў мне адказу, але зірнуўшы на мяне сваім ганаровым вокам ізноў запытаўся: „А з якой вы школы?“—„З Сенькеняцкай—кажу—пачаткавай“... а сам думаю-ці казаць што з беларускай, ці не? Не, кажа мне нейкі голас у сяродку, не кажы... і я не сказаў. Але гэта не памагло, бо пан ізноў запытаўся: «Але-ж я пытауся, з якой пан школы—беларускай ці польскай?»

Як сказаў ён гэтак—дык у мяне ажно мурашкі па хрыбце залеталі... «Ну—думаю —не дадуць нічога»... Але што зробіш? трэба сказаць. Набраушы духу, я ўканец адважыуся і такі моцна сказаў: „Ну, беларускай, а што-ж?“—«А калі беларускай, дык можаш, пан, ехаць дамоў, бо на беларускія школкі мы нічога не даём, а ў рэшце зьвярніцеся да бюра, вун тамака, ў ганку...» Пан пашоў далей, а я ў ганак.

Там я знайшоў аднаго толькі бюраліста. На маё пытаньне ён адказаў мне якраз тое самае, што і першы пан на панадворку—і да гэтага—стаў яшчэ мне даказваць, што тутака Польшча і ніякіх беларускіх школак не павінна тут быць. Скора на падмогу яму прышоў нейкі новы пан, якому бюраліста зараз падсунуў паперы да подпісу. Падпісаўшы паперы, новы пан разам з бюралістым апанавалі мяне ў пытаньню аб патрэбе самастойнасьці Беларусі. Я стаў бараніцца; спрэчка была доўгая і была цікавай толькі ў канцы, калі пан, што падпісываў паперы, сказаў мне: «Але-ж вы мусіце згадзіцца з тым, што вы прайгралі, бо нашы ксяндзы добра ўмеюць рабіць ўплыў па вашых цёмных, занадта набожных каталікоў і хутка зьвернуць іх да Польшчы; а пан выбраў сабе надта цяжкую дарогу, на якой, пэўна, скруціш сабе шыю». На гэты аргумэнт я мог даць толькі адзін адказ: «Лепі я скручу шыю на сваёй дарозе, чым буду гнуць яе ўвесь век на панскай». Скончыўшы гэтак нашае сьпіраньне, я ізноў загаварыў аб вопратках, даказваючы, што Амэрыка памагаець наагул усім дзяцём, а ня толькі польскім, і што беларускія школьнікі не павінны быць выключаны з ліку маючых права на гэту падмогу. Тады мне паказалі штамп камітэту і сказалі: «Вось, бачыце, Польска-Амэрыканскі камітэт, а не Беларуска-Амэрыканскі; калі будуць лішкі, то дадзём і вам, а не дык нам сваё школкі бліжэй, як беларускія»... Вось гэтакае разуменьне Польска-Амэрыканскага камітэту Вайгянскімі панамі прымусіла мяне зьвярнуцца праз газэту да беларускіх дзеячоў з прапанаваньнем: ці ня можна было-б зрабіць нам свой камітэт ці прызначыць прадстаўніка, які-б атрымываў падмогу на беларускія школы беспасрэдна ад праўдзівых Амэрыканскіх прадстаўнікоў (але ня Польска-Амэрыканскіх).

**Вучыцель А. Р.**

# Беларуская Вучычэльская Сэмінарыя ў Барунах.

Дэпартамэнт Асьветы Сярэдняе Літвы выдаў урэшце дазвол на далейшае функцыянаваньне Беларускаэ Сэмінары ў Барунах, але чамусьці абмежаваў школьны год для сэмінарыі 15 мая.

Нас больш чым дзівіць гэта новая перашкода ў справе беларускае прасьветы. З газэт ужо раней было ведама, што навука ў сэмінарыі пачалася ў гэтым годзе дзеля розных прычын толькі 21 лютага. 14 марца лекцыі былі праз паліцыю спынены і ключы вернуты былі ў сэмінарыю толькі 7 красавіка. А цяпер вызначана ад Дэпартамэнту, каб сэмінарысты былі адпушчаны на летнія вакацыі 15 мая, гэта, значыцца, раней, чым у ва ўсіх другіх сярэдніх школах, хоць у тых школах навука пачалася ня ў лютым, а ў верасьні.

Чаму такі марны лёс спаткаў нашу бедную сэмінарыю? Чаму гэта беларускае моладзі ня можна вучыцца так, у дзеткам другіх нацый; і дзе-ж гэта? як нас, на Беларусі, у Барунах, Ашмянскага павету, на Віленшчыне.

У які-ж век, нарэшце, мы жывём? Што за дзікія адносіны істнуюць у нас, на абшарах так званае Сярэдняе Літвы да прасьветы беларускае людпасьці!

**А.**

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Беларускае нацыянальнае сьвята.

25 красавіка ў дзень трохлецця абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, у Коўне адбылося урачыстае пасяджэньне Рады і Беларускага Ураду. Уступную прамову сказаў Старшыня Рады п. Крычэўскі; пасля таго чытаў ўрадовую дэкляpацыю Старшыня Рады Міністраў п. Ластоўскі. Прывіталі прамовамі сябра Усебеларускага Цэнтральнага Саюзу інжэнер Галавінскі і ўноў выбраны міністар нацыянальных меншасьцяў Жытлоўскі. Беларуская, жыдоўская і расейская прэса зьмесьціла ў гэты дзень абгляды, ахвяраваныя гісторыі Беларускага Нацыянальнага руху.

## Сьвяткаваньне 25 сакавіка у Лодзі.

25-е сакавіка спакойна было адсьвяткована ў Лодзі працаўнікамі Бел. Вайск. Камісіі і войскам. А 10-й гадз. раніцай І-шы батальён стральцоў быў сшыхаваны на пляцы казармаў і агледжаны Камандуючым Беларускімі Вайсковымі Аддзеламі. Пасьля ўсе быўшыя на месцы жаўнеры і афіцэры былі на памяткі сфотографованы.

А. 12-й гадзіне паручнікам Косьцевічам быў прачытаны гадзінны рэфэрат па гэткай праграме:

1. Прычыны пабудзіўшыя Раду Рэспублікі незабаўна выдаць акт. 25/III 1918.

а) адмова Старшыні Расійскае Савецкае делегацыі на Берасьцейскай конференцыі з немцамі Троцкага візаваць праезд у Бярэсьце Беларускай Дэлегацыі на мірную конфэрэнцыю і рашэньне лёсу Беларусі без яе прадстаўнікоў.

б) Неяснасьць у рабоце Рады, дзякуючы моцным уплывам масквафільскіх элемэнтаў, што ўвайшлі ў Раду ад земскіх і гарадзкіх самаўрадаў.

в) узмацненьне нацыянальнага элемэнту прыездам у Менск—сталіцу Рады—прадстаўнікоў Віленскай Беларускай Рады.

2. Ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 г. ў Радзе Республікі:

а) трыбунная барацьба (больш як 20 аратараў) па пытаньню аб аглашеньні незалежнасьці.

б) непраклонная воля беларускага (самастойніцкага) элемэнту, згуртованага вакол «Беларускай Соцыялістычнай Грамады» выдаць акт аб незалежнасьці.

в) апошнія стараньні масквафільскіх элемэнтаў аслабіць сілу акту 25 сакавіка прапазыцыяй аб фэдэрацыі з Расеяй. Тры пяцьмінютныя пярэрвы ў пасяджэньні перад галасаваньнем. Напіраньне расейцаў і жыдоў на пункт рэволюцыі Усебеларускага Конгрэсу аб „неотторжімості“ Беларусі ад Расіі.

г) прыняцьце рэзолюцыі аб незалежнасьці й выхад масквафільскіх элемэнтаў з Рады Рэспублікі.

3. Устаўная грамата рады рэспублік 25 сакавіка 1918 году і яе значэньне ў беларускім руху.

Гістарычная грамата 25/III была выслухана усімі, стоячы. Пасьля рэфэрату ўсе сьпяялі гымн «Адвеку мы спалі».

**К. М.**

## Выпіска з пратаколу агульнага сходу сяброў Саюза Беларускіх Настаўнікаў б. Крайскай гміны.

Разглядалі справу разьдзелу Беларусі на Рыжскім замірэньні. Пастанавілі пратэставаць словам і чынам проціў нябывалага зьдзеку над шматмільённым беларускім народам. Хай ведаюць ліхадзеі, што мір, пабудаваны на ўціску другіх, раскладае вогнішча новай вайны. Хай ведаюць, што Беларус можа драмаць, але памерці — ніколі. Беларус лішні раз дакажа сваю несьмяротнасьць, і недалёка тая хвіліна, калі беларус завядзе сваю гаспадарку ў сваім вольным краі ад Буга да Сожа і ад Дзьвіны да Прыпяці.

Старшыня сходу (подпіс)
Сэкрэтар (подпіс)

## Базыльлянскія муры.

**Беларускі Камітэт прыняў экстрэныя і самыя сур'ёзныя меры к абароне спрадвечнай беларускай цьвярдыні ў Вільні—Базыльлянскіх муроў ад нападу.**

## „Маладое жыцьцё“.

7 красавіка выйшаў чародны нумар пэрыодычнай часопісі беларускае моладзі „Маладое жыцьцё“. Зьмест № гэткі: «Да Літаўскае моладзі» — Ж., «Да беларусаў-матурыстаў, «Да брата ў нядолі»—верш Вінцука Сталяронка, «Беларуская вучнёўская моладзь, шануйма родную мову»—голас гімназіста М. Іль—ча, «Лятуценьні» —верш Натальлі Арсеньевай, «Крыху аб спорту» — М. Іль-ча, «Залаты век» — Н., «Раніцой»—Юзіка Хрышчановіча, «Няшчасны дзень»—Х .. у... z. (адна з лепшых рэчаў, нумара), «Ізноў у хаце» — М. Іль-ча, «Як я навучыўся пабеларуску» — вучня IV клясы 1-ай В. Б. Г. Сяргея Арсеньева. «Досыць»—верш Г. Акушчанкі, «Сьмяялася неба»—Н., кроніка, жарты, выбраныя С. Бэрнікерам; і «Свая пошта».

Гэты нумар «Маладога Жыцьця» робіць надта добрае ўражаньне. Кідаецца ў вочы багацьце і цэннасьць падабранага матар'ялу, відаць старанная праца рэдактара. Як на загану, можна паказаць толькі на адсутнасьць твораў дзяцей малодшага веку. Замала асьвятляецца штодзеннае жыцьцё школы.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## ПРАТЭСТ.

### Старшыні Часовай Урадуючай Камісіі Сярэдняе Літвы ў Вільні.

1 красавіка гг. па загаду Дырэктара Дэпартаманта Унутраных Спраў зачынены ў Вільні тры літоўскія газэты па польскай і расейскай мовах: «Straż Litwy», «Nasza Ziemia» і «Литва». Такім чынам, хаця доля Віленшчыны яшчэ не разьвязана і можа быць правільна разьвязана толькі пры варунках карыстаньня ў спрэчны час роўнымі правамі дзеля абедзьвюх старон, як Літвы, так і Палякоў, Літва адразу страціла трох змаганьнікаў за яе незалежнасць і правы, а віленская грамада ліцьвіноў, апроч таго, яшчэ і сваіх абаронцаў. Тымчасам другая старана, асабліва-ж «Gazeta Wileńska» і «Rzeczpospolita», якія ў змаганьні супраць незалежнасьці Літвы і ліцьвіноў дагэтуль не высьцерагаліся ні інсінуацый, ні маны, могуць цяпер, дзеля немагчымасьці ліцьвінам бараніцца, падбухторываць таўпу супроць Літвы і ліцьвіноў. Пры гэткім становішчы, абраны літоўскай грамадою м. Вільні дзеля абароны яго інтарэсаў і выразу яго волі злучэньня Віленшчыны з незалежнаю Літвою, Віленскі Часовы Літоўскі Камітэт прымушан публічна ўзьняць свой голас супроць закрыцьця газэт і катэгарычна запратэставаць.

За старшыню кан. Кукта.

Сябры: Б. Біржышкене
С. Яцкевічыус
Кс. Сібірас
К. Сташыс.

Секрэтар д-р Аўгевічыус.

## Беларусазнаўства у сэмінарыі павінна быць.

Беларускі Камітэт у Вільні на сваім агульным паседжаньні 11-га красавіка 1921 г. разгледзіў справу аб выкладаньні беларусазнаўства ў праваслаўнай сэмінарыі. Справа гэтая паўстала праз рэзалюцыю Беларускага Вучыцельскага Саюзу і адказу на яе рэктара сэмінарыі п. В. Багдановіча. Посьле прамоў грам. Я. Станкевіча (старшыні Вуч. Саюзу), грам. М. Яцкевіча (курсант-багаслоў сэмінарыі) і інш., Камітэт аднагалосна пастанавіў: дамагацца ад рэктара сэмінарыі п. В. Багдановіча каб лекцыі беларускае мовы і беларусазнаўства выкладаліся; паслаць каталіцкаму біскупу заяву аб патрэбе выкладаньня беларускае мовы і беларусазнаўства ў каталіцкай сэмінарыі ў Вільні.

## Беларускі тэатр.

У чацьвер 21 красавіка ў Гарадзкой салі будзе беларускі вечар з гэткай праграмай: 1) «Птушка шчасьця» п'еска ў 3 акт. са сьпевамі і танцамі Фр. Аляхновіча, 2) концэртны аддзел (славянскі хор—беларускія народныя песьні), 3) гульні і скокі да 5 гадз. раніцы. Даход ідзе на карысьць бедных вучняў беларускіх школ.

# Пісьмы у Рэдакцыю.

## I.

Грамадзянін Рэдактар!

Не адкажыце памесьціць на бакох рэдактуемае Вамі газэты ніжэйшы **покліч да ўсіх сыноў Бацькаўшчыны і спагадчыкаў Беларусі.**

Разлады, якія цягнуцца на бацькаўшчыне нашай з-за яе захвату, гібельна адбіваюцца на беларускай ўваскрасаючай культуры. Акупанты і заваявацелі ў войстрай ненавісьці адзін к другому і к непакорнаму беларускаму народу, зьніштожваючы усё жывое, не ашкаджаюць і душы народу. Бібліятэкі, творы мастацтва, архівы сьведкі гісторыі апошніх сталецьцяў гінуць бясьследна: зьвязкі даўнейшых грамат і прывілеяў утылізуюцца на рынках, старыя кнігі і фоліянты ідуць на распал, і толькі ў лепшым разе вывозяцца у чужыя краі зоркімі скупшчыкамі-агентамі часовых гаспадароў краю.

Разам з даўнейшчынаю гінуць і памяткі сучаснай эпохі: нова друкаваныя выданьні, кнігі, газэты, журналы, лістоўкі...

Перажываемыя намі варункі не даюць мажлівасьці сыстэматычна выхоўваць усе творы друку, сустрачае труднасьці навет бібліяграфічная рэгістрацыя выданьняў. Установаў адпаведных няма, ды ці да іх' паміж іншым, — патрэбнасьць як зьбіраць усе сучасныя друкаваныя творы, так тым больш рэгістраваць—зразумела для ўсіх.

Так на бацькаўшчыне! Але і зарубежны друк у апошні час уважна фільтруе беларускую проблему. Ня менш патрэбна адзначыць усё, што гавораць і як адзываюцца аб нас суседзі.

Адсюль, лічачыся з тым, што ў апошнія крывавыя гады бесканечна дзеленая Беларусь пастаўлена ў асабліва цяжкія варункі ў адносінах да закранутае вышэй тэмы, цяпер групаю беларускіх дзеячоў прыняты крокі дзеля збору усялякіх друкаваных матэр'ялаў датычна Беларусі і беларусаў і выйшаўшых за перыад апошніх пятнаццацёх гадоў (1906—1921) і выданьня даўно ўжо пачатага першага бібліяграфічнага агляду «Беларускі Друк» са сьпецыяльным аддзелам выданьняў на ўсіх другіх мовах, закрануўшых даную тэму «Alba Ruthenica».

Гэтым ініцыятары зьвяртаюцца з вялікаю просьбаю да ўсіх беларускіх інтэлігентаў і спагадчыкаў Беларусі, выдаўцоў, рэдактараў, літэратараў, гісторыкаў, журналістаў і крытыкаў—не адмовіцца ў прысылцы па ніжэйпаказанаму адрасу выданьняў: кніг, брашур, газэт, журналаў, лістовак, календароў, справачнікаў, адозваў, апавяшчэньняў, праграм, нот, плякатаў, карт, адкрытак, альбо выразкі з сучаснага друку, у каторым так ці іначай закранута беларуская праблема (беларускае пытаньне, гісторыя, звычайнае права, статыстыка, эканоміка, этнаграфія, бягучае жыцьцё і др.), у разе немагчымасьці даставіць тое ці другое выданьне, альбо выразак—не адмовіцца у паведамленьні бібліяграфічнае запісі аб выданьні (з падробным указаньнем аўтара, рэдактара, загалоўка, году і места выданьня, друкарні, колькі страніц, велічыня і цана выданьня, места выхаваньня і т. далей) бяз розьніцы яго палітычнае акраскі, мовы і спосабу цісьнеьня: друкарня, фото-, гекто-, ці шапірографія.

Усё прысланае, па выкарыстаньні яго ля вышэй названай працы, будзе аддадзена ў распараджэньне арганізуемае цяпер у Коўні беларускае «Бібліятэкі імені Ф. Скарыны».

